„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr



# Ніва



№ 26 (122) БЕЛАСТОК, 29 ЧЭРВЕНЯ 1958 г. ГОД III

## Усе сілы для міру

*Наш народ, якому апошняя вайна і зверствы гітлераўскай акупацыі былі асабліва цяжкім жыццёвым выпрабаваннем, хоча міру, каб пазбыцца яшчэ дагэтуль жывых слядоў вайны, развіваць прамысловасць і сельскую гаспадарку, павысіць ўзровень жыцця народа, захапляцца росквітам культуры і навукі.*

*Таму асабліва рашуча выступаем супроць становішча імперыялістычных кол, якія працягваюць гонку ўзбраенняў, утрымоўваюць і паглыбляюць падзел свету на варожыя мілітарныя блокі, падрыхтоўваюць атамную вайну.*

*Дамагаемся прызнаць прынцыпы перагавораў асновай міжнародных адносін. Гэта адзіны слушны спосаб, пры дапамозе якога можна вырашыць існуючыя спорныя праблемы.*

*Найбольш неадкладнай справай лічым спыненне доследаў з нуклеарнай зброяй, як зрабіў Савецкі Саюз, адкрываючы гэтым вялікім крокам дарогу да міжнароднага пагаднення ў гэтай вялікаважнай для жыцця народаў свету справе.*

*Не без прычыны з непакоем і абурэннем сочым за пагражаючай міру палітыкай збраення заходнегерманскага Бундэсвера ў атамную зброю.*

*Узбраенне зброяй масавага знішчэння мілітарыстаў, якія ўжо два разы на працягу апошняга паўстагоддзя тапілі чалавецтва ў віры вялікага вынішчэння, якія выразна гавораць свету аб сваіх рэваншысцкіх намерах накіраваных, перш за ўсё, супроць ПНР і яе межаў з'яўляецца гвалтоўным нахабным выклікам, кінутым польскаму народу і гаворыць аб непасрэднай, рэальнай пагрозе яго бяспецы.*

*Выражаем рашучае супраціўленне спробам некаторых агрэсіўных колаў, якія намагаюцца зрабіць прадметам спрэчак праблемы дзяржаўнага ладу краін народнай дэмакратыі. Гэта правакацыйнае ўмяшацельства ва ўнутраныя справы вольных і незалежных народаў, нязгоднае з прынцыпамі мірнага суіснавання.*

*У імя міру Еўропы і бяспекі Польскай Народнай Рэспублікі моцна абстаіваем за знамянальнай ініцыятывай урада ПНР у справе ўтварэння зоны без атамнай зброі, у якую уваходзілі-б Польшча, Чэхаславакія і абедзве германскія дзяржавы.*

*Пастаяннае далейшае ўмацоўванне адзінства сацыялістычнага лагеру і братэрскіх сувязей з галоўнай апорай міру — Савецкім Саюзам, народамі вялікага Кітая, Чэхаславакіі, ГДР і іншых краін народнай дэмакратыі — гэта гарантыя міру і незалежнага існавання і быту польскага народа, гарантыя нашай бяспекі і непарушнасці нашых межаў.*

*Памятаючы аб трагічных вопытах нядаўнай гісторыі, аб жахлівых стратах, якія прышлося нам пацярпець, зробім усё, каб народ наш ніколі не быў ахвярай ваеннай катастрофы. Патрыятычным абавязкам і як найбольш асабістым інтарэсам кожнага з нас — аддаць усе сілы працы для справы міру ў сувязі з павісшай над светам зморай атамнай вайны.*

*Працуем для міру, добра выконваючы штодзённыя абавязкі, ліквідуючы злоўжыванні, лянства, выкараняючы шавінізм і забабоны, пракладаючы дарогу талковаму гаспадараванню і ўпарадкоўваючы справы нашага агульнага жыцця.*

*Працуем для міру, дбаючы аб росквіт нашай народнай айчыны, аб яе гаспадарку, матэрыяльныя крыніцы, асвету і культуру.*

*Працуем для міру, умацоўваючы сувязь з народамі і людзьмі добрай волі ва ўсім свеце.*

(З закліку Краёвай Канферэнцыі Польскага руху за мір).



*Тут, у адной брацкай магіле, спачывае 140 асоб — жыхароў вёскі Райск, расстрэляных лютымі фашыстамі.*

# НЕЗАГОЕНАЯ РАНА

СТВАРАЛЬНІКАМ ВЕРМАХТУ ПРЫСВЯЧАЮ.

Над Райскам і аколіцай павісла прыгожая чэрвеньская ноч. Чулася, як недалёка па чыгунцы цяжка ішлі на фронт і з фронта нямецкія транспарты, або з грукатам праязджалі па шашы калоны аўтамашын.

Было ўжо далёка за поўнач, калі з боку вёскі Плютычы на ўскраіне лесу паказаліся сілуэты людзей, якія, падзяліўшыся на патрулі, па некалькі асоб рушылі ў напрамку вёскі.

Дзе-ні-дзе скрыпнулі дзверы, пачулася лёгкае стуканне ў вокны, ціхія размовы... У вёску прышлі партызаны.

Вёска Райск ад пачатку вайны аказвала дапамогу партызанам. Тут яны хаваліся, даставалі харчы, боепрыпасы. У гэтую ноч партызанскі атрад ішоў з Чырвонага Бору ў Белавежскую пушчу. Ноч набліжалася да канца. Дарога ў пушчу была яшчэ далёкая. Камандзір атрада загадаў затрымацца на дзень у недалёкім ляску, што прасціраўся ў бок Плютыч. Вартавыя занялі назіральныя пункты ў вызначаных месцах. Адна з варт заняла месца ў зарослым кустамі магільніку, што знаходзіўся па дарозе Райск—Храбалы.

Устала нядзеля 14 чэрвеня 1942 года. Было цёпла і ціха. Дзесьці каля 9-ці гадзін раніцы пад Райск прыехаў нямецкі пасажырскі аўтамабіль і знік у напрамку Плютыч.

У тры гадзіны пасля абеда нямецкі аўтамабіль ізноў прыехаў у Райск. Вартавыя партызаны, якія сядзелі ў засадзе на магільніку, уважліва пазіралі на ваколіцу. Зялёны лімузін, які раптам паказаўся з Райска, едучы ў напрамку вёскі Храбалы, быццам электрызаваў вартавых партызан.

І сёння цяжка сказаць, што кіравала імі ў гэты момант, ці гэта была нянавісць да фашыстаў, ці нястрымны рэфлекс...

Па карасерыі аўтамабіля залязгалі серыі з аўтаматаў. Мшына закацілася і стала. Засада знікла ў кустах магільніка. У машыне ляжалі забітымі чатыры асобы.

У вёсцы закіпела. Што будзе? Некаторыя пайшлі да разбітай машыны, іншыя раіліся, паведаміць аб здарэнні гестапа ў Бельску, ці не?...

Солтыс вёскі, Лявон Мамотка, не хацеў паведамляць, што мае быць, хай тое і будзе. У Райску жыў гаспадар Аляксей Мікалаюк. Вось ён, ні з кім не параіўшыся, патаемна вышмыгнуўся з вёскі ў Бельск, у гестапа, з мэтай паведамлення аб здарэнні. Шэф гестапа ў Бельску СС—унтэрштурмфюрэр Пауль Шведэ, пачуўшы ад Мікалаюка вестку аб разбіцці партызанамі нямецкай машыны ў Райску, неадкладна паклікаў каменданта жандармерыі і даў загад паехаць з моцнай групай жандармаў у Райск, забраць аўтамабіль з загінуўшымі і зрабіць вобыск у аколіцы. Жандармы паехалі. Пауль Шведэ доўга размаўляў з Мікалаюкам. Мікалаюк падрабязна расказаў аб дзейнасці КПЗБ у даваенны перыяд, зрабіў характарыстыку комуністаў і іх працы, расказаў аб тым, хто як дапамагае партызанам, выявіў нават, у каго былі партызаны ў апошнюю ноч і шмат іншых падрабязнасцей.

Гестапавец усё запісваў. Запісаўшы, падзякаваў і запэўніў Мікалаюка, што той атрымае ўзнагароду за каштоўныя інфармацыі. Мікалаюк накіраваўся ў Райск. Эсэсавец Шведэ паехаў туды, дзе стаяў аўтамабіль з загінуўшымі немцамі. Найбольш дапамагаў партызанам, як інфармаваў шпік, Карніла Паўлючук. Шведэ загадаў арыштаваць яго і даставіць у гестапа.

Да вечара ў Райску не было ніводнага немца. Жандармы забралі трупы і машыну.

Пауль Шведэ доўга гаварыў па тэлефону з шэфам гестапа беластоцкай акругі СС — гаўптштурмфюрэрам Вальдэмарам Макголем, заяўляючы аб здарэнні ў Райску. Макголь загадаў Шведэ ў панядзелак рана з'явіцца ў Беластоку. 15 чэрвеня 1942 года ў кабінеце шэфа беластоцкага гестапа з'явіўся Паўль Шведэ з матэрыяламі аб Райску.

Заслухаць справаздачу прыбыў таксама начальнік СС і паліцыі на Беластоцкую акругу штандартэнфюрэр Вэрнер Фром, ды некалькі іншых важных асоб мясцовага гестапа. Шведэ, апіраючыся на інфармацыі Мікалаюка і апошнім здарэнні, зрабіў характарыстыку вёскі Райск, акрэсліваючы яе гняздом комуністаў і партызан.

Пасля дыскусіі было пастаноўлена — Райск, як вёску, неабходна знішчыць з паверхні зямлі, большасць насельніцтва расстраляць. Помста і яшчэ раз помста за тое, што адважыліся падняць руку на немцаў. Канчаткова было пастаноўлена: ноччу паедзе ў Райск некалькі груп эсэсаўцаў, жандармаў і ўкраінскай паліцыі, абкружаць вёску трыма кольцамі, і не выпусцяць, такім чынам, ні адной душы за аколіцу.



*Жыццё мацнейшае за смерць. Вёска Райск ізноў паўстала пасля вайны, як легендарны Фенікс з папелішчаў.*

Спецыяльная група гестапаўцаў і эсэсаўцаў пад камандаваннем Макголя і камандзіра да барацьбы з партызанамі гаўптштурмфюрэрам Эдубюргерам на месцы правядзе раптоўны допыт, а ваеннапалявы суд вызначыць адпаведны прысуд. Немцы баяліся, каб у часе знішчэння вёскі не напалі на іх узброеныя партызаны. Таму было ўстаноўлена, што з самай раніцы аж да заканчэння пацыфікацыі над Райскам будзе кружыць назіральны самалёт і надаваць у радыёстанцыю зводкі аб тым, што робіцца ў аколіцы.

Так 15 чэрвеня 1942 года ў кабінеце шэфа беластоцкага гестапа быў ўстаноўлены прысуд на вёску Райск.

У Райску ў панядзелак было надзвычай спакойна, людзі крыху здзіўляліся гэтым спакоем — ні немцаў, ні партызанаў. Ці-ж забыліся і адны і другія?...

Больш-менш у 3 гадзіны ночы з 15 на 16 чэрвеня фашысты трыма кольцамі абкружылі навокал вёску. На ўзгорках расставілі станковыя кулямёты. Ледзь золак заняўся на небе, як вуліца Райска запоўнілася фашыстамі. Вакол будынкаў, на гародах і дарогах — усюды было іх паўнюсенька.

*(Працяг на стар. 6)*

## Галасы зямлі



*Выступае акадэмічная капела пад кіраўніцтвам Р. Шырмы.*

Добра ведаем, як беластоцкая публіка адносіцца да сур'ёзнай музыкі — не разумее яе. І гэтага я найгорш баялася, ідучы на канцэрт Шырмы.

Як успрыме публіка харавую капелу, якая хоць і стаіць на вышыні харавога майстэрства, аднак для беластоцкага слухача, напэўна, будзе сюрпрызам у дагэтуляшнім яго разуменні беларускай песні. Нейк дзіўна склалася, але для беластачаніна беларуская песня — гэта, перш за усё, частушкі. Дамагаецца ён іх на кожным беларускім канцэрце. Я ўпэўнена, што і ў гэты раз шмат хто лічыў на частушкі.

І калі па зале паплылі гукі песні, якая нічым не нагадвала склаўшагася ўяўлення аб беларускай душы, публіка замерла ў канстэрнацыі. Але гэта трывала толькі хвіліну. Шырма, як нейкі чарадзей, уводзіў слухача ў гушчар песеннага царства, і паланіў без рэшты.

Салодкі гэта быў палон! Нервавалі воплескі, яны вырывалі цябе з чароўнай казкі гукаў, а хацелася бясконца піць цудоўны нектар палёў і лясоў, чуць веснавое журчанне ручайка, слухаць, як казыча сэрца мелодыя жаваранка, якая тысячамі тонаў ліецца з паднебнай высі, лічыць колькі адкукавала зязюля, вітаць працавітых людзей, цешыцца з першай усмешкі маленькага дзіцяці, змагацца за шчасце і мір, за братэрства народаў.

—«Народная песня— гэта душа народа. Яна злучае народы, яна не ведае ніякіх граніц». Так тлумачыць народную песню Рыгор Шырма.

Для мяне і асабіста канцэрт Шырмы з'явіўся вялікім радасным перажываннем не толькі дзякуючы класічнаму выкананню песні, але, у першую чаргу, дзякуючы класічнаму выкананню беларускай песні.

Велічная краса нашай песні — душы! Нельга ёю не захапляцца, нельга яе не любіць!

ВЕРА ЛЕУЧУК.

# ВОЗЬМУЦЦА ЗА КУЛЬТУРНУЮ ПРАЦУ

З чыгуначнай станцыі ў Сыбе каля Элку я накіраваўся ў дом адпачынку аб рамантычнай назве «Заціша». З-за квітнеючых кустоў ляцелі словы вясёлай, беларускай песні:

*«Кацілася чорна галка*
*Па бару, па бару.*
*А за ёю ясны сокал*
*Паблізу, паблізу.*
*Пастой чорна галка*
*Ты мая, ты мая.*
*Яна яму шчабятала:*
*Не твая, не твая...»*

Адкуль-жа яна, беларуская песня тут, на мазурскай зямлі? Прынеслі яе тут з сабою 37 маладых хлапцоў і дзяўчат з Беластоцкага, Сакольскага, Бельскага, Гайнаўскага, Семятыцкага паветаў, якім Саюз сялянскай моладзі сарганізаваў у гэтай мясцовасці культурна - асветны курс, — справа, за якую варта пахваліць.

На курс прыехала беларуская моладзь з вёскі, якая ўжо нешта робіць у галіне культурнага жыцця.

Курс працягваўся два тыдні. Моладзь набыла веды ў галіне культуры і асветы. Курсанты завучылі шмат новых і старых песень. Былі паўтораны і распрацаваны і тыя песні, якія моладзь прывязла з сабою.

Шмат часу на курсе прысвячалася вывучэнню народных танцаў, між іншым «Лявоніхі» і «Крыжачка». У часе заняткаў прысвечаных працы клубаў моладзь пазнала, як падрыхтаваць п'есу да пастаноўкі на вёсцы, арганізаваць мерапрыемствы, акадэміі, дыскусіі над кніжкай і г. д. Моладзь запазналася з народнымі беларускімі ўзорамі.

Былі наладжаны вечары, у часе якіх чыталіся вершы, праводзіліся спрэчкі над кніжкамі, а потым рабіліся ацэнкі.

Моладзь прыпамінала сабе вершы Янкі Купалы і іншых паэтаў і ахвотна іх чытала.

Лекцыі па беларускай літаратуры чытаў прафесар Варшаўскага універсітэта кафедры беларускай філалогіі — В. Т. Тарасаў. Моладзь з вялікім захапленнем слухала яго лекцыі. Многія з іх упершыню даведаліся столькі цікавага аб сваёй роднай літаратуры, упершыню адчулі яе прыгажосць.

Нямалай атракцыяй была экскурсія параходам па Мазурскіх азёрах. Хараство гэтай зямлі назаўсёды застанецца ім ў памяці.

Ці курс гэты даў нейкую карысць моладзі? Зразумела, што так. Размаўляў я з многімі ўдзельнікамі курса. Усе яны (аднолькава) гаварылі, што цяпер, вярнуўшыся ў свае мясцовасці з вялікай ахвотай возьмуцца за культурную працу. Курс даў ім значныя падставы.

Ці так будзе? Пабачым...

Некаторыя пастанавілі пайсці на двухгадовы культурна-асветны курс у Супраслі, гэта таксама дзякуючы поспехам курса. Такія курсы трэба арганізаваць як найчасцей.

На заканчэнне хацелася-б ад сябе сказаць адну заўвагу: калі на будучыню будзе яшчэ такі курс для беларускай моладзі, то павінна больш увагі ўдзяліць гэтаму Галоўнае Праўленне БГ-КТ, як з боку падрыхтоўкі праграмы, так і з боку забеспячэння адпаведнымі выкладчыкамі.



*Лекцыі па беларускай літаратуры чытаў праф. В. Т. Тарасаў*



*Моладзь вывучае песні*



*На заканчэнне курса агульная памятная здымка.*

Тэкст і фота — А. А.

## Нашы настаўнікі

Мала калі настаўнікі збіраюцца разам. Раскіданыя па далёкіх вёсках, аддзеленыя ад сябе дзесяткамі кіламетраў, не заўсёды яны маюць магчымасць весела, дружна праводзіць час і абменьвацца вопытам. Аднак у апошні час настаўнікі некалькіх школ арганізуюць у сваіх раёнах сустрэчы, арганізуюць паказальны ўрок, на якім абменьваюцца вопытам і г. д.

Пасля патанцуюць, паспяваюць, назначаць тэрмін наступнага спаткання, ды ізноў раз'язджаюцца. Нядаўна адбылося супольнае спатканне настаўнікаў у Баброўніках. На спатканні прысутнічалі настаўнікі з Баброўнікаў, Вераб'ёў, Зуброў, Вейкаў, Коматаўцаў. Мастаўлян і Лужан (Беластоцкі павет).

---

tyki pobytu Mickiewicza w Rosji (PIW, 1956, стр. стр. 11—14) паказвае сувязь паміж Міцкевічам, віленскімі філаматамі і рускім рэвалюцыйным рухам, падкрэслівае вялікую ролю ў гэтым М. Рукевіча, прыкмячае ўзаемаадносіны паміж членам «Таварыства ваенных сяброў» Ігельстромам і ўдзельнікам снежаньскага руху В. Кюхэльбэкэрам.

Міхал Рукевіч вырашыў пашырыць рамкі гэтага таварыства. З гэтай мэтай была створана другая ступень таварыства пад назвай «Таварыства згоды». Да яго належалі, галоўным чынам, цывільныя чыноўнікі: калежскі рэгістратар Беластоцкага дваранскага дэпутацкага сходу. Аляксандр Грынявіцкі, канцылярыст тамашняга абласнога праўлення Людвіг Вронскі, шляхціцы Беластоцкай вобласці Фелікс і Караль Ардынскія, шляхціц Гродзенскай губерні Ян Высоцкі і іншыя.

Да «Таварыства ваенных сяброў» былі далучаны «Заране» і складалі трэцюю ступень. Начальнікам першай ступені быў Гофман, другой — Тжэбінскі, трэцяй — Людвіг Вронскі. Такім чынам, сувязь паміж асобнымі ступенямі была вельмі цесная.

Да першай ступені, г. зн. да «Таварыства ваенных сяброў», належалі выключна вайсковыя служачыя ў Асобным Літоўскім корпусе. Такая мера была неабходна, бо адной з галоўных задач таварыства была падрыхтоўка арміі да рэвалюцыйнага выбуху.

Вельмі цікавыя «Правілы» гэтага таварыства. Прывядзем некаторыя з іх:

«Мэта таварыства. Даваць адукацыю сабе і іншым. узаемная дапамога і агульнае блага.

Таварыства падзяляецца на тры ступені.

Ступень вышэйшая складае камітэт і не можа ўмяшчаць у сябе больш 5-ці чалавек, г. зн.: аднаго начальніка і чатырох членаў.

Назва таварыства, існаванне і дзеянне камітэта, лік і імёны членаў вядомы толькі знаходзячымся ў гэтым таварыстве, іншыя-ж ступені не ведаюць аб гэтым.

Камітэт выбірае начальніка большасцю галасоў; першы з іх застаецца ў гэтым званні два гады, паступаючыя-ж пасля яго — толькі па адным годзе.

Першым абавязкам камітэта з'яўляецца пашырэнне таварыства.

Перш за ўсё камітэт павінен звярнуць увагу на артылерыю, піонерны батальён, грэнадэрскую брыгаду і карабінерны полк.

Нанова ўводзімыя пастановы рашаюцца ў камітэце большасцю галасоў... Члены яго штомесячна павінны збірацца на месца, вызначанае начальнікам.

Нарада камітэта магла адбывацца пры ўдзеле па меншай меры трох членаў і начальніка, без гэтага-ж усе пастановы не з'яўляюцца сапраўднымі».

Далей гаворыцца аб тым, што кожны чалавек, уступаючы ў арганізацыю, павінен прынесці наступную клятву.

«Клятва 1-ай ступені. Клянуся перад тварам істоты Вышэйшай, на гэтым алтары свяшчэннага сяброўства, што аб існаванні таварыства, дзеяннях камітэта і імёнах членаў нікому з неналежачых да гэтага таварыства ніколі не аб'яўлю; усе ўскладзеныя на мяне абавязкі буду выконваць свята; да пашырэння таварыства буду прыкладваць усе сілы, для дасягнення гэтага, ахвярую сваімі здольнасцямі, маёмасцю і жыццём. Калі-ж карысць таварыства таго патрабуе: то прынясу роўнадушна ў ахвяру каханне, дружбу і само сваяцтва. У выпадку якой-небудзь падазронасці ці выкрыцця клянуся прыняць на сябе ўсю адказнасць не выкрываць іншых. Пры найменшым невыкананні мною гэтай клятвы не толькі дазваляю, але нават і прашу ўсіх братоў спыніць жыццё маё якімі-б то ні было сродкамі і тым выратаваць таварыства».

Вось гэта-ж клятва на польскай мове:

„Przysiągam na Istotę najwyższą, na tym ołtarzu świętej przyjaźni, że nigdy nie wyjawię nikomu, nie należącemu do Towarzystwa, jego istnienia, działalności Komitetu, liczby i nazwisk członków, wypełniać będę święcie powierzone mi obowiązki, do rozszerzenia Towarzystwa pomagać będę ze wszystkich sił i dla osiągnięcia tego poświęcę swoje zdolności, majątek i życie; jeżeli tego wymagać będzie pożytek Towarzystwa, złożę mu w ofiarze bez żalu: miłość przyjaźń lub rodzeństwo. W wypadku jakichkolwiek podejrzeń lub wykrycia, przysięgam wziąć na siebie całą odpowiedzialność, nie zdradzając innych. W wypadku najmniejszego odstępstwa od tej przysięgi nie tylko pozwalam, lecz proszę nawet wszystkich braci, aby pozbawili mię życia jakimkolwiek sposobem, a przez to zbawili Towarzystwo".

У «Правілах таварыства» моцна падкрэсліваецца, што ніхто з членаў без дазволу начальніка не можа нічога пісаць адносна таварыства і ніякіх папер, адносячыхся да таварыства, у сябе не трымаць. У іншым выпадку ён будзе пакараны, як за невыкананне клятвы.

*(Працяг у наступным нумары)*

